А. Пушкін

# Казка пра рыбака і рыбку

Пераклад: А.Якімовіч



1975
Издательство
·МАЛЫШ·

# А. Пушкін

# Казка пра рыбака і рыбку



Издательство „Малыш"
1975



Жыў стары са сваёю старою
Ля самага сіняга мора;
Жылі яны ў старэнькай зямлянцы
Роўна трыццаць год і яшчэ тры.
Стары лавіў невадам рыбу,
Старая прала сваю пражу.

Вярнуўся стары дахаты,
Расказаў старой вялікае дзіва:
«Я сягоння злавіў быў рыбку,
Ды не простую, а залатую;
Па-нашаму гаварыла рыбка,
Дамоў у мора сіняе прасілася,
Дарагою цаною адкуплялася:
Адкуплялася, чым толькі пажадаю.
Не пасмеў я ўзяць з яе выкуп,
Так пусціў яе ў сіняе мора».







На старога старая напала:
«Ах ты, дурань стары, недарэка!
Не ўмеў ты ўзяць выкупу з рыбкі!
Хоць бы ўзяў ты з яе карыта,
Наша вунь зусім раскалолася».



Вось пайшоў ён да сіняга мора.
Бачыць: мора злёгку разгулялася.
Стаў ён клікаць залатую рыбку.
Прыплыла к яму рыбка, спытала:
«Чаго табе трэба, дзядуля?»
Ёй з паклонам стары адказвае:
«Злітуйся, матухна рыбка,
Дужа лае мяне мая старая,
Не дае мне, старому, спакою:
Патрэбна ёй новае карыта;
Наша, бач, зусім раскалолася».
Кажа дзеду залатая рыбка:
«Не журыся, ідзі сабе з богам.
Будзе вам новае карыта».
Вярнуўся стары дахаты,
А ў бабы новае карыта.



Яшчэ горай злуецца старая:
«Ах ты, дурань стары, недарэка!
Выпрасіў, дурань, карыта!
Ці ж многа з карыта карысці?
Вярніся, дурніца, да рыбкі,
Пакланіся ёй, выпрасі хату».



Вось пайшоў ён да сіняга мора
(Памутнела сіняе мора),
Стаў ён клікаць залатую рыбку,
Прыплыла к яму рыбка, спытала:
«Чаго табе трэба, дзядуля?»
Ёй з паклонам стары адказвае:
«Злітуйся, матухна рыбка:
Яшчэ горай злуецца старая,
Не дае мне, старому, спакою;
Хату просіць сварлівая баба».
Кажа дзеду залатая рыбка:
«Не журыся, ідзі сабе з богам.
Так і быць: хата вам будзе».

Пайшоў ён да сваёй зямлянкі,
А зямлянкі няма ўжо і следу;
Перад ім хата са святліцай,
З цагляным комінам белым,
З дубовай дашчанаю брамай.





Старая сядзіць пад акенцам,
На чым свет стаіць мужа лае:
«Ах ты, дурань стары, недарэка!
Выпрасіў, недарэка, хату!
Вярніся, пакланіся рыбцы:
Не хачу быць чорнай сялянкай,
Хачу быць сталбавою дваранкай».



Пайшоў стары да сіняга мора
(Неспакойна сіняе мора);
Стаў ён клікаць залатую рыбку,
Прыплыла к яму рыбка, спытала:
«Чаго табе трэба, дзядуля?»
Ёй з паклонам стары адказвае:
«Злітуйся, матухна рыбка:
Яшчэ горш уздурэла старая,
Не дае мне, старому, спакою:
Ужо не хоча быць яна сялянкай,
Хоча быць сталбавою дваранкай».
Кажа дзеду залатая рыбка:
«Не журыся, ідзі сабе з богам».

Вярнуўся стары дахаты,
Што ж ён бачыць? Высокі церам.
На ганку стаіць яго старая
У дарагой сабалінай душагрэйцы,
На галаве парчовая хустка,
Жамчугі агрузілі шыю,
На руках залатыя пярсцёнкі,
На нагах чырвоныя боцікі.



Перад ёю старанныя слугі;
Яна б'е іх, за чуб цягае.
Кажа стары сваёй жонцы:
«Добры дзень, пані дваранка!
Ну, цяпер твая душачка здаволена».
На яго прытупнула старая
І на стайню служыць яго паслала.



Гэтак тыдзень, другі мінае,
Яшчэ горш уздурыла старая;
Зноў да рыбкі старога пасылае:
«Вярніся, пакланіся рыбцы:
Не хачу быць сталбавою дваранкай,
А хачу быць вольнаю царыцай».
Напужаўся стары, узмаліўся:
«Ці не з глузду ты з'ехала, баба?
Ні ступіць, ні сказаць што не ўмееш,
Насмешыш ты цэлае царства».
Узлавалася горш старая,
Па шчацэ ўдарыла мужа:
«Як ты смееш, мужык, спрачацца са мною,
Са мною, дваранкай сталбавою?
Ідзі да мора, дабром табе кажуць;
А не пойдзеш - павядуць паняволі».

Зноў падаўся стары да мора
(Пачарнела сіняе мора),
Стаў ён клікаць залатую рыбку,
Прыплыла к яму рыбка, спытала
«Чаго табе трэба, дзядуля?»
Ёй з паклонам стары адказвае:
«Злітуйся, матухна рыбка!
Зноў бунтуе мая старая:
Ужо не хоча быць яна дваранкай
Хоча быць вольнаю царыцай».
Адказала залатая рыбка:
«Не журыся, ідзі сабе з богам!
Добра! Будзе старая царыцай!»



Вярнуўся стары дахаты,
Што ж? Перад ім царскія палацы,
У палацах бачыць сваю старую,
За сталом сядзіць яна царыцай,
Служаць ёй баяры ды дваране,
Наліваюць ёй заморскія віны;
Заядае яна пернікам мядовым,
Ля яе стаіць грозная варта,
На плячах сякеркі трымаюць.
Як убачыў стары, напужаўся;
У ногі ён старой пакланіўся:

«Добры дзень, - кажа, - грозная царыца.
Ну цяпер твая душачка здаволена».
На яго старая не зірнула,
Толькі прэч з вачэй прагнаць загадала.
Тут падбеглі баяры і дваране
І старому ў каршэнь надавалі.
А ў дзвярах яшчэ стража падбегла,
Сякерамі чуць не пасекла;
А народ тут з яго насмяяўся:
«Так і трэба табе, стары дуран!
Надалей табе будзе навука:
Не садзіся не ў свае сані!»







Гэтак тыдзень, другі мінае,
Яшчэ горш уздурэла старая;
Царадворцаў па мужа пасылае,
Адшукалі старога, прывялі к ёй.
Кажа старому старая:
«Вярніся, пакланіся рыбцы,
Не хачу быць вольнаю царыцай,
Хачу быць уладарніцай морскай,
Каб мне жыць у акіяне-моры,
Каб служыла мне рыбка залатая
І была б у мяне на пасылках».



Стары не асмеліўся супярэчыць,
Не адважыўся супраць вымавіць слова.
Вось ідзе ён да сіняга мора,
Бачыць, чорная бура на моры:
Так і ўздуліся злосныя хвалі,
Так і ходзяць яны, так і выюць.
Стаў ён клікаць залатую рыбку,
Прыплыла к яму рыбка, спытала:
«Чаго табе трэба, дзядуля?»
Ёй з паклонам стары адказвае:
«Злітуйся, матухна рыбка!
Што рабіць мне з праклятаю бабай?
Ужо не хоча быць яна царыцай,
Хоча быць уладарніцай морскай;
Каб ёй жыць у акіяне-моры,
Каб ты сама служыла
І была б у яе на пасылках».
Не сказала нічога рыбка,
Хвастом па вадзе толькі пляснула
І сышла ў глыбокае мора.



Доўга-доўга чакаў ён адказу,
Не дачакаўся, назад вярнуўся.
Бачыць: зноў перад ім зямлянка;
На парозе сядзіць яго старая,
А перад ёю разбітае карыта.

Для дошкольного возраста

*Александр Сергеевич Пушкин*

**СКАЗКА О РЫБАКЕ И РЫБКЕ**

*Рисунки Б. Маркевича*


Редактор Г. Яковлева
Художественный редактор Д. Пычалина
Технический редактор Г. Шентова
Корректор Н. Шабрина

Сдано в производство З/V-74 г. Подписано к печати З1/VII-74 г. Бумага офс. № 1. Ф. 84×90/[illegible]. Печ. л. 1,5. Усл.-печ. л. 2,1. Уч.-изд. л. 2,41. Тираж 300 000. Цена 21 к. Изд. № Л126. Заказ 882. Издательство «Малыш» Государственного комитета Совета Министров РСФСР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Москва, К-55, Бутырский вал, 68. Калининский полиграфкомбинат детской литературы им. 50-летия СССР Росглавполиграфпрома Госкомиздата СМ РСФСР. Калинин, проспект 50-летия Октября, 46.

П $\frac{70801-[illegible]}{M172(03)-74}$ 22-74






Раз у мора закінуў ён невад.
Прыйшоў невад з адной тванню.
Ён другі раз закінуў невад,
Прыйшоў невад з травою марскою.
Трэці раз закінуў ён невад,
Прыйшоў невад з адною рыбкай,
З няпростаю рыбкай, залатою.
Як узмоліцца залатая рыбка,
Голасам кажа чалавечым:
«Адпусці ты, дзеду, мяне ў мора,
Дарагі за сябе дам выкуп:
Адкуплюся, чым сам пажадаеш».

Дзіву даўся стары, напужаўся:
Ён рыбачыў трыццаць год і яшчэ тры
І не чуў, каб рыба гаварыла.
Адпусціў ён рыбку залатую
І сказаў ёй ласкавае слова:
«Бог з табою, залатая рыбка!
Выкупу твайго мне не патрэбна;
Ідзі сабе ў сіняе мора,
Гуляй там сабе на прасторы».



